# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 1 (2351) 6 студзеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 30 рублёў.




ДА 195-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Адама МІЦКЕВІЧА



**Гэты паэт па праву належыць не толькі двум славянскім народам -- польскаму і беларускаму, але і ўсяму свету. Рамантычная лірыка Адама Міцкевіча ўвайшла ў скарбніцу сусветнай літаратуры нароўні са спадчынай Дж. Байрана і А. Пушкіна.**


**(Заканчэнне фотарэпартажу на 6-й стар.).**


**НА ЗДЫМКУ: Адам МІЦКЕВІЧ (з партрэта С. Шымаўскай).**

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

## Мікола ЕРМАЛОВІЧ:

# "НАЦЫЯНАЛІЗМ, ЯК І ШАВІНІЗМ, - ПРЫКМЕТА СЛАБАСЦІ НАРОДА"

**З ВЯДОМЫМ ГІСТОРЫКАМ Міколам ЕРМАЛОВІЧАМ ГУТАРЫЦЬ Анатоль ЛІТВІНОВІЧ.**

-- Мікола Іванавіч, вы вывучалі летапісы, хронікі і іншыя літаратурныя крыніцы па гісторыі Беларусі, па этнагенезу беларусаў. Дык, у рэшце рэшт, калі пачаў фармавацца беларускі этнас і калі ён канчаткова склаўся як асобны славянскі народ? Па гэтым жа пытанні маецца некалькі думак.

-- Працэс складвання беларускай народнасці пачаўся значна раней, чым гэта сцвярджалася ў даследаваннях, падручніках па гісторыі, дзе даводзілася, што беларусы, рускія і ўкраінцы пачалі фармавацца на аснове старажытнарускай народнасці, якая існавала быццам бы з сярэдзіны IX да сярэдзіны XII стагоддзяў. І калі яна стала распадацца, то на падставе яе распаду сталі фармавацца беларусы, украінцы і рускія. Аднак гэты тэзіс больш прапагандысцкі, чым навуковы. Ніхто з даследчыкаў не даказаў існавання старажытнарускай народнасці. Тое, што існавала старажытнаруская дзяржава -- Кіеўская Русь, яшчэ не даказвае, быццам была ў ёй адна народнасць. Дзяржавы могуць аб"ядноўваць некалькі народнасцей. Фармаванне беларускай народнасці пачалося з часу славянскага засялення тэрыторыі Беларусі недзе на мяжы YI--YII стагоддзяў н.э. Тэрыторыю Беларусі да гэтага займалі так званыя балцкія плямёны. На падставе асіміляцыі балцкіх плямёнаў славянскімі плямёнамі, такімі, як крывічы, дрыгавічы, радзімічы, і п... лося самазараджэнне, с... звіццё беларусаў. Такім ... чынам, ужо дзесьці к XIII стагоддзю былі закладзены асновы беларускай народнасці. І на тэрыторыі Беларусі пачалі фармавацца першыя дзяржаўныя ўтварэнні: Полацкае, Тур... скае, Смаленскае і пазне... вагародскае (Навагрудскае).

-- Мікола Іванавіч, якую ж ролю адыгралі балты? Перш за ўсё яны былі адным з важных элементаў пры ўтварэнні беларускай народнасці і такім чынам зрабілі істотны ўплыў на беларускую антрапалогію, тэмперамент, характар нашага народа, яго традыцыйную духоўную і матэрыяльную культуру.

-- Нягледзячы на тое, што перавага была на баку славян, бо яны асімілявалі балтаў, яны ўбіралі ў сябе і пэўныя балцкія элементы, напрыклад, словы, звычаі і шмат чаго іншага. На гэтым і выяўляюцца асаблівасці беларускай народнасці. У той жа час руская народнасць убірала ў сябе угра-фінскія элементы, і гэта выяўляла яе адметнасць.

-- Дзяржава афіцыйна называлася Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, або Вялікім Княствам Літоўскім, Жамойцкім і Рускім. Значыць, пад словам "Літоўскім" разумеліся беларускія землі, пад "Рускім" -- украінскія, "Жамойцкім" -- сучасныя летувіскія?


**(Працяг на 4-й стар.).**


## ДУША СВЯТЛА ПРАГНЕ



**Мы, канешне, не Еўропа, куды так карціць вярнуцца. Там ужо за два месяцы да Нараджэння Хрыстова ўвесь знешні фон гарадоў і вёсак нагадвае пра набліжэнне вялікага свята хрысціян. Ды ўсё ж і ў Беларусі прабіваюцца парасткі затаптаных і спаняверавых традыцый.**


**(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).**


**НА ЗДЫМКУ: батлейка ў касцёле Святога Роха на Залатой горцы ў Мінску.**

ЗНОЙДЗЕНА У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АРХІВЕ

# НОВЫЯ ЗВЕСТКІ ДА БІЯГРАФІІ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Сярод пытанняў, якія ўздымаліся на канферэнцыі, што праходзіла ў канцы кастрычніка гэтага года ў Наваполацку і была прысвечана 110-м угодкам з дня нараджэння В. Ластоўскага, было пытанне аб месцы нараджэння слыннага дзеяча беларускага Адраджэння. Да гэтага часу было прынята лічыць, што Власт нарадзіўся 20 кастрычніка 1883 года ў засценку Калеснікі Дзісенскага павета Віленскай губерні (зараз Міёрскі раён Віцебскай вобласці) у сям'і дробных арандатараў-земляробаў. Аднак знойдзены мною на пачатку снежня ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь выпіс з метрычных кніг Дзісенскага касцёла аб нараджэнні Вацлава Ластоўскага дазваляе вызначыць іншую дату і месца яго нараджэння.

У Нацыянальным архіве РБ захоўваецца выключна мала матэрыялаў, якія тычацца гісторыі колішняй Віленскай губерні і ў прыватнасці тых яе тэрыторый, што зараз уваходзяць у склад Беларусі.


**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВІНШАВАННІ ПРЭМ'ЕРА*

**Напярэдадні Новага года члены беларускага ўрада сустракаліся з самымі маленькімі грамадзянамі рэспублікі. Праходзілі гэтыя сустрэчы ля ззяючых ёлак.**

**Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч быў запрошаны ў дзіцячы аздараўленчы санаторый "Пухавічы", а пасля выступіў з віншаваннямі на балемаскарадзе "Дзеці ў гасцях у прэм'ера", які адбыўся ў Інфармацыйна-культурным цэнтры Савета Міністраў. Сюды з'ехаліся 500 хлопчыкаў і дзяўчынак з усіх абласцей і сталіцы Беларусі.**



**НА ЗДЫМКУ: В. КЕБІЧ з дзецьмі ля навагодняй ёлкі.**

*АХВЯРАВАННІ*

## НА АЗДАБЛЕННЕ ХРАМА

**На свята Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы, што ладзілася ў Сынкавіцкай (Міхайлаўскай) царкве на Зэльвеншчыне да вернікаў прыбылі мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі і міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П.Краўчанка.**

**Пасля святочнай літургіі, якую правёў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, да вернікаў звярнуўся міністр замежных спраў П.Краўчанка і перадаў дзве тысячы долараў на аздабленне славутага храма -- вядомага помніка дойлідства. Гэтыя грошы падчас знаходжання міністра замежных спраў П.Краўчанкі ў Кліўлендзе ахвяраваў для Сынкавіцкай царквы беларус Анатоль Лук'янчык.**

**Анатоль у Кліўлендзе мае завод па вырабу кандыцыянераў для кватэр. І яго не пакідае вялікае жаданне паглядзець на гэты сусветна вядомы помнік архітэктуры XV--XVI стагоддзяў.**

*ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ*

## ХРЫСЦІЯНСКІ ФОНД

**Міжнародны хрысціянскі фонд узнік пад патранажам мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі.**

**Новая грамадская арганізацыя унікальная: упершыню ў гісторыі рэлігіі на тэрыторыі былога Саюза ССР вышэйшыя іерархі трох самастойных хрысціянскіх канфесій -- праваслаўнай, рымска-каталіцкай і баптысцкай -- аб'ядналіся для вырашэння агульнацаркоўных і агульначалавечых праблем. Акрамя свяшчэннаслужыцеляў у складзе заснавальнікаў вядомыя грамадскія дзеячы Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаў-удзельніц СНД.**

**Міжнародны хрысціянскі фонд будзе займацца духоўным адраджэннем народа, пашырэннем хрысціянскіх каштоўнасцей і маралі і пабудовай на гэтай аснове гуманнага светапарадку.**

*ЧАРНОБЫЛЬ*

## СЕНАТАРЫ ЗАНЕПАКОЕНЫ

**"Я вярнуўся з Чарнобыля занепакоены". Такую думку выказаў сенатар Мішэль Панятоўскі. Ён узначальваў дэлегацыю камісіі па замежных справах верхняй палаты французскага парламента, якая наведала ў пачатку снежня раён Чарнобыльскай АЭС.**

**"Саркафаг", у які быў у спешцы заключаны ў 1987 годзе рэактар, дзе адбылася аварыя, пакрываецца шчылінамі і развальваецца, -- заявіў М.Панятоўскі. -- Ядро рэактара працягвае апускацца ў грунт і набліжаецца да лініі гарызонту грунтавых вод".**

*"Усю палітычную, маральную і матэрыяльную дапамогу Захад накіроўваў у Расію, поўнасцю ігнаруючы Беларусь і Украіну. Было дапушчана, каб Расія, дзякуючы свайму дамінуючаму становішчу, валоданню на[illegible]й і газам, асаблівай палітыцы цэн, выдаіла [illegible]ставіла на калені Украіну і Беларусь. [illegible]ад свядома пайшоў на гэта, напэўна, думаючы, што вядзе мудрую палітыку па стварэнню "новай дэмакратычнай Расіі".*

*Ці здолее Захад змяніць свае адносіны? Нейкія карэктывы, напэўна, будуць. Але, наколькі я разумею заходнюю палітыку, -- [illegible]а вельмі інертнае і коснае мысленне, [illegible] наўрад ці зможа рашуча змяніцца. Там надта распаўсюджана мысленне ўласным кашальком, супакаеннем і адчуваннем таго, што ўсё гэта дзесьці вельмі далёка. А гэта блізка, надта блізка... Баюся, што, як і ў выпадку з Гітлерам, Захад, сам таго не разумеючы, дапаможа фашыстам у Расіі прыйсці да ўлады і замацавацца.*

*Зянон ПАЗЬНЯК, лідэр апазіцыі БНФ.*

*БЕДНЫЯ БАГАЧЫ*

## ГРОШАЙ — КУРЫ НЕ ДЗЯЎБУЦЬ

**На рахунках прадпрыемстваў рэспублікі ў блізкім замежжы зберагаюцца каля 2 трыльёнаў рублёў.**

**У той жа час на рахунках у прамыславікоў знаходзіцца 20--24 мільярды рублёў. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што больш як 40 мільёнаў долараў ЗША "замарожаны" ў банках блізкага замежжа. І гэта не ўсё: 200 мільёнаў долараў ЗША захоўваюцца на рахунках у краінах далёкага замежжа і 100 мільёнаў долараў канверсаваны ў выглядзе тавараў.**

*СКАНДАЛЫ*

## ГАЛІНА АРЦЫМЕНЯ СУПРАЦЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШ[illegible]І

**У судовай сутычцы са старшынёй Часовай камісіі ВС Рэспублікі Беларусь для вывучэння дзейнасці камерцыйных структур, што дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, Аляксандрам Лукашэнкам пагражае сысціся ўдава былога старшыні Гродзенскага аблвыканкома Галіна Арцыменя. Яна накіравала ў парлам[illegible] элеграму, у якой запатрабавала ад А.Лукашэн[illegible] зверггнуць сцвярджэнне, што яна і яе сын былі затрыманы на польскай граніцы з вялікай колькасцю брыльянтаў і алмазаў. Калі дэпутат не папросіць прабачэння, гаворыцца ў тэлеграме, Г.Арцыменя пакідае за сабой права звярнуцца ў суд.**

*У МІНІСТЭРСТВЕ АБАРОНЫ*

## ВАЕННАЯ АКАДЭМІЯ

**Ва Узброеных Сілах рэспублікі пачалася работа па стварэнню ваеннай акадэміі.**

**Яна будзе заснавана на базе Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча. Міністр абароны генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі назначыў рабочую групу на чале з цяперашнім начальнікам нацыянальнага агенцтва па кантролю і інспекцыях генерал-маёрам Віктарам Вакарам.**

**Рашэннем Савета Міністраў Беларусі фарміраванне ваеннай акадэміі павінна быць закончана да 1 ліпеня 1995 года.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПЁТР КЛІМУК, першы беларускі касманаўт, у 20-ю гадавіну свайго першага палёту ў космас наведаў родныя мясціны -- вёску Камароўка ў Маларыцкім раёне і горад Брэст, ганаровым грамадзянінам якога ён з'яўляецца. Лётчык-касманаўт Пётр Клімук цяпер начальнік Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў. Землякі шчыра віталі героя.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ "Лексічнага атласа беларускіх гаворак" адбылася ў Акадэміі навук рэспублікі. Гэта першы том вялікага выдання. Праца над ім доўжылася амаль 20 гадоў.

АДБЫЛАСЯ канферэнцыя партыі беларускіх дэмакратаў -- Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць. Заслуханы справаздачы сустаршынь партыі, абмеркаваны даклад аб сучасным стане грамадства, абраны кіруючыя органы. Старшынёй БХДЗ стаў вядомы беларускі філосаф Мікола Крукоўскі.

НІЧОГА добрага ў 1994 годзе не прарочыць астролаг, ён жа і кандыдат фізіка-матэматычных навук Ігар Кірушын. Эканамічнага росту Беларусі не прадбачыцца, затое нас чакае абвастрэнне барацьбы за ўладу, умацаванне радзімай мафіі, рост злачыннасці.

СВЯТОЧНЫ заказ атрымаў кожны з дэпутатаў Вярхоўнага Савета перад тым, як раз'ехацца на навагоднія канікулы. У тым заказе 1 бутэлька гарэлкі "Сталічная" і па 1 бутэльцы "Савецкага шампанскага" і іспанскага віна, 1 кілаграм шакаладных цукерак. Усё гэта каштавала народным абраннікам 27 тысяч рублёў.

ЗА ВЫКАНАННЕ "Цыганкі" на конкурсе "Залатая ліра" вядомыя выканаўцы Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч атрымалі прэстыжную пуцёўку на Канарскія астравы. А "Цыганка" абрана песняй года.

*КРЭДЫТ*

## ДВА ПРАЕКТЫ

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Мікалай Косцікаў і прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Жак дэ Ларазьер падпісалі два крэдытныя пагадненні на агульную суму 45,85 мільёна ЭКЮ. Большы з двух крэдытаў, 40,1 мільёна ЭКЮ, будзе атрыманы Міністэрствам энергетыкі на мадэрнізацыю Аршанскай цеплаэлектрастанцыі, размешчанай у паўночна-усходняй частцы рэспублікі. Кампанія Мінскага аптовага рынка атрымае 5,75 мільёна ЭКЮ.**

*ДЗЕ ШУКАЦЬ ПРАЎДЫ*

## ІСК МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА АДХІЛЕНЫ

**На працягу амаль месяца ў ваенным судзе Мінскага гарнізона разглядаўся грамадзянскі іск падпалкоўніка ў адстаўцы, старшыні Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалая Статкевіча да Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь і кіраўніцтва Мінскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча аб яго незаконным звальненні з Узброенных Сіл рэспублікі.**

**У выніку склад суда адхіліў іск, прызнаўшы яго неправамерным, матывуючы гэта тым, што, згодна з апошняй папраўкай Вярхоўнага Савета да Закона Рэспублікі Беларусь "Аб статусе ваеннаслужачых", яны не маюць права займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю не толькі ў рабочы час, але і ў нерабочы.**

**Аднак, як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, Статкевіч і яго паплечнікі маюць намер падаць касацыйную скаргу ў Рэспубліканскі ваенны суд.**

*БУДЗЕМ З СОЛЛЮ*



**Кухонную соль выдаў на-гара першы руднік вытворчага аб'яднання "Беларуськалій". Сітуацыя гэтая вымушаная. Апошнім часам рэзка знізіўся попыт на калійныя ўгнаенні. У пошуках выйсця з узнікшага становішча і было прынята такое рашэнне, хаця на прадпрыемстве ўжо даўно прапаноўвалася выпускаць і тую, і іншую прадукцыю паралельна. Але, як вядома, "пакуль гром не грымне..."**

**Думаецца, гаспадынь такое рашэнне кіраўніцтва "Беларуськалія" вельмі парадуе: солі буйнога памолу даўно няма на прылаўках магазінаў. Першы ж руднік ужо выдаў 115 тысяч тон прадукцыі. У гэтым годзе яе будзе здабыта ўжо мільён тон. Выпускацца кухонная соль будзе трох гатункаў.**

**НА ЗДЫМКУ: машыніст Уладзімір ДЗМІТРЫЕЎ і намеснік начальніка горнага ўчастка N 1 Юрый ПРАЦЭНКА з дабытай кухоннай соллю.**

РАЗАМ З НАРОДАМ І ДЗЕЛЯ НАРОДА

# ЗВАРОТ

## ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

### з нагоды 90-й гадавіны заснавання Беларускай Сацыялістычнай Грамады і 75-годдзя заснавання Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі

СПАЎНЯЕЦЦА 90 гадоў ад часу заснавання першай беларускай палітычнай партыі -- Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

У 1903 годзе маладыя людзі сацыялістычных і патрыятычных перакананняў аб'ядналіся ў Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду, якая ў 1905 годзе прыняла новы назоў — Беларуская Сацыялістычная Грамада. У гэтай партыі супрацоўнічалі марксісты і сацыялісты-народнікі.

Маладая партыя жадала, каб Беларускі край у адпаведнасці з правам народаў на самавызначэнне стаў аўтаномнаю адзінкаю ў складзе будучай Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Разам з іншымі левымі партыямі Расіі беларускія сацыялісты бралі чынны ўдзел у рэвалюцыі 1905--1907 гадоў, змагаліся за звяржэнне самадзяржаўя, за зямлю для народа, за самавызначэнне.

Сілы рэвалюцыі былі слабыя. БСГ зведала на сабе жорсткія ўдары царскай ахранкі. Сябры партыі былі кінуты ў турмы, вымушаны былі ісці ў падполле, эміграваць.

У другой палове 1906 года беларускія сацыялісты прыйшлі да высновы, што дзеля захавання партыі, дзеля гуртавання ўсіх патрыётаў Беларусі, дзеля асветы народа неабходна заснаваць беларускую газету. Спачатку выходзіла "Наша доля", якая з-за цэнзурных праследаў хутка спыніла існаванне. Лепшы лёс чакаў "Нашу ніву" -- газету, якая выходзіла з 1906 па 1915 год. Сябры Грамады заснавалі таксама выдавецкую суполку "Загляне сонца і ў наша ваконца" ў Санкт-Пецярбургу, а пазней -- Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні. Беларускія сацыялісты выдавалі і рэдагавалі часопісы "Саха" і "Лучынка", прызначаныя для сялян і моладзі.

Нашаніўскі перыяд дзейнасці Грамады мае неацэннае значэнне для беларускага вызваленчага руху. Газета будзіла нацыянальную свядомасць народа, гуртавала вакол сябе ўсю свядомую Беларусь, падтрымлівала пісьменнікаў і дзеячаў беларускага мастацтва. Дзякуючы "Нашай ніве", якая з'яўлялася фактычным штабам БСГ, партыя не толькі захавалася, але і ўмацавалася. Пад уплывам газеты былі выхаваны будучыя дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Выпрабаваннем для партыі стала першая сусветная вайна. Відныя дзеячы БСГ Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка) засталіся ў акупаванай Вільні. Была створана Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група -- фракцыя Грамады, якая стаяла на марксісцкіх пазіцыях. Сацыял-дэмакраты баранілі інтарэсы беларускага народа, арганізоўвалі прафсаюзы. Яны былі ў ліку заснавальнікаў новай беларускай газеты "Гоман". Сацыял-дэмакраты былі стваральнікамі беларускіх школ, настаўніцкіх курсаў, настаўніцкай семінарыі.

У пошуках будучай формы жыцця народа дзеячы Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Работніцкай Групы, як і сацыялісты-народнікі, прыйшлі да высновы, што наша краіна павінна стаць незалежнаю дзяржаваю.

Для беларускіх сацыялістаў, якія жылі ў цэнтральных і ўсходніх раёнах краіны, а таксама ў Расіі, паваротным момантам было звяржэнне царызму. БСГ выйшла на арэну адкрытага палітычнага змагання. Дзеячы партыі адыгралі выдатную ролю ў стварэнні прадстаўнічых органаў нашага народа -- Беларускага Нацыянальнага Камітэта, а потым Беларускай Рады і Вялікай Беларускай Рады. Сацыялісты былі заснавальнікамі беларускіх арганізацый у вой[не]. Яны былі вядучаю партыя[мі на] Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 года.

Усведамляючы, што для поўнага самавызначэння народа яшчэ не выспелі ўсе аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перадумовы, БСГ па-ранейшаму [адс]тойвала ідэю аўтаноміі. Ад[нак] бальшавікі не маглі згадзіцца нават з гэтым патрабаваннем, якое было запісана ў рэзалюцыі Усебеларускага з'езда. Сам ход гісторыі прывёў сацыялістаў, якія жылі на ўсходзе краіны, да думкі пра неабходнасць самастойнай беларускай дзяржаўнасці.

Стварэнне 20 лютага 1918 года Народнага Сакратарыята (Урада) Беларусі, абвяшчэнне 9 сакавіка таго ж года Беларускай Народнай Рэспублікі, а 25 сакавіка -- яе незалежнасці з'явілася галоўнымі вынікамі амаль 15-гадовай дзейнасці Беларускай Сацыялістычнай Грамады. "На цэлы бел свет" было сцверджана, што жыве Беларусь. Ад гэтага часу расійскія вялікадзяржаўнікі і польскія шавіністы, толькі пакрывіўшы душой, маглі даводзіць, што няма беларускага народа, беларускай мовы, беларускай культуры і дзяржаўнасці.

У другой Устаўнай Грамаце да народаў Беларусі ў сціслым выглядзе выказаны сацыяльна-палітычныя ідэалы беларускіх сацыялістаў: свабода слова, друку, сумлення, права грамадзян аб'ядноўвацца ў партыі, прафесійныя і грамадскія арганізацыі, недатыкальнасць асобы і жылля, права працоўных на страйкі. Беларускія сацыялісты хацелі бачыць сваю Радзіму дэмакратычнай і квітнеючай дзяржавай. Яны не заплямілі сябе тэрорам, праследамі іншадумцаў. Палітыку яны рабілі чыстымі рукамі.

За кароткі час існавання БНР былі адчынены многія дзесяткі беларускіх школ, гімназіі, прагімназіі, працавалі педагагічны інстытут, нацыянальны тэатр, выходзілі газеты, прымаліся захады дзеля адкрыцця універсітэта ў Мінску, быў наладжаны выпуск падручнікаў. Дзеячы БНР самі былі выкладчыкамі. Яны пісалі і перакладалі для школьнікаў падручнікі і вучэбныя дапаможнікі.

БНР была нежаданым дзяржаўным утварэннем для суседзяў. Яе ўпарта не хацеў прызнаць кайзераўскі ўрад Нямеччыны. Антанта заахвочвала Польшчу да анексіі беларускіх земляў. Яе лёс быў прадвызначаны. Тым большага прызнання заслугоўваюць лідэры маладой Беларускай дзяржавы, якія насуперак абставінам адстойвалі права народа на суверэнітэт. З гонарам можна сказаць, што гэтыя лідэры былі выхаванцамі Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Так склалася, што менавіта ў 1918 годзе Беларуская Сацыялістычная Грамада падзялілася на тры партыі. З БСГ выйшлі сацыялісты-народнікі (эсэры) і сацыялісты-федэралісты. Яны ўтварылі свае партыі. Сваю партыю ўтварылі і марксісты.

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя ад першай хвіліны свайго існавання была арыентавана на пабудову дэмакратычнай дзяржавы са шматукладнай эканомікай. У праекце яе праграмы адсутнічала палажэнне пра дыктатуру пралетарыяту, пра нацыяналізацыю прамысловасці. Нават аграрнае пытанне прапаноўвалася вырашыць шляхам выкупу зямлі ў памешчыкаў. Партыя салідарызавалася з тым напрамкам у сусветнай сацыял-дэмакратыі, які бальшавіцкія ідэолагі называлі апартуністычным, рэвізіяністцкім і рэфармісцкім, з тым напрамкам, перспектыўнасць і плённасць якога была засведчана ўсёй далейшай гісторыяй.

Сёння мы з гонарам называем імёны заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Івана і Антона Луцкевічаў, Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Аркадзя Смоліча, Браніслава Тарашкевіча. Яны былі ў ліку першых беларускіх сацыялістаў, якія цвёрда сталі на незалежніцкі грунт. Яны пакінулі памяць пра сябе самаадданаю працаю дзеля народа.

У гэтыя дні мы абавязаны згадаць і тых беларускіх сацыялістаў, якія сталі на бальшавіцкія пазіцыі: Алеся Чарвякова, Зміцера Жылуновіча і іншых. Мы не павінны вінаваціць іх за выбар, бо яны сумленна служылі свайму народу, сталі, як і многія іх таварышы па БСГ, ахвярамі сталінскага тэрору.

Памяць пра Беларускую Сацыялістычную Грамаду і Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю мы ўшаноўваем у назве нашай партыі.

Ушаноўваючы памяць нашых папярэднікаў, мы, беларускія сацыял-дэмакраты 90-х гадоў, напоўніцу чэрпаем з іх ідэйнай спадчыны. Нашы папярэднікі былі разам з народам і служылі народу. У іх творах для нас ёсць дакладнае ўказанне на тыя каштоўнасці, якія ёсць і нашыя каштоўнасці, нашыя прынцыпы. Гэта перш-наперш прызнанне самацэннасці свабоды і роўнасці людзей і народаў. Гэта адстойванне дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці. Гэта салідарнасць з усімі дэмакратычнымі сіламі ў імя прагрэсу, дабрабыту і міру. Гэта ідэал прававой, сацыяльнай, дэмакратычнай дзяржавы. Найвышэйшая ж каштоўнасць -- незалежнасць Беларусі. Толькі ў незалежнай Беларускай дзяржаве наш народ можа развіць усе свае творчыя сілы.

Гаворачы аб сённяшнім адраджэнні сацыял-дэмакратычнай ідэі на Беларусі, нельга не ўспомніць першага старшыню Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады Міхася Ткачова, чыя самаадданая палітычная і арганізацыйная праца з'явілася падмуркам для росту і ўмацавання Грамады.

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада мае немалы патэнцыял. У гэтыя дні, калі адзначаецца 90-годдзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады і 75-годдзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, мы сардэчна віншуем сяброў БСДГ і яе сімпатыкаў з гэтымі датамі і заклікаем кожнага прыкласці яшчэ больш намаганняў дзеля будаўніцтва незалежнай, дэмакратычнай, сацыяльнай і прававой Беларускай дзяржавы.

**Цэнтральная Рада Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.**






(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**У сталіцы нашай змрочнае і панурае было надвор'е ў дні сёлетніх каталіцкіх Калядаў, роспач агортвала людзей ад сацыяльнай зруйнаванасці і грамадскай няўтульнасці. Але душы нашыя, якія так прагнуць святла, уцехі і радасці, пацяплелі ў тыя дні -- Бог нарадзіўся. І хоць на вуліцах горада амаль нішто не нагадвала пра свята, яно было ў сэрцах нашых. Па ўсёй Беларусі ў касцёлах грымелі арганы, а хор шчырых галасоў славіў Маці Божую і Хрыста, што нарадзіўся людскому роду на збавенне.**

**Свята толькі пачалося з каталіцкіх Каляд. Наперадзе яшчэ Новы год і Каляды праваслаўныя.**

**НА ЗДЫМКАХ: імша ў касцёле Св. Роха; калядоўшчыкі.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## МЕРКАВАННЕ ЛАТВІЙСКІХ БЕЛАРУСАЎ

# ЯКІМ БЫЦЬ ДЗЯРЖАЎНАМУ ГІМНУ?

Шаноўнае спадарства! Мы вельмі багатыя людзі! Колькі часу мы правялі ў парадах, спрэчках, каб з мноства геніяльных твораў здабыць адзін для Дзяржаўнага Гімна. Ну якая яшчэ Дзяржава можа гэтым пахваліцца? Сапраўды, на конкурс пададзены творы выдатныя. Аднак больш ня трэба губляць час. Бо гімн у Беларусі ёсьць. Больш таго, ён ёсьць даўно. Так даўно, як толькі Беларусь у асобе Вялікага Княства Літоўскага памяталі Незалежнай Дзяржавай. Гэты музычны цуд вядомы кожнаму грамадзяніну Беларусі. У ім велізарнейшы запал энергіі закадыраваны ў ноты. Гэта гінучая Дзяржава -- Вялікае Княства Літоўскае праз асобу геніяльнага М.К.Агінскага перадала сваім нашчадкам музычны ключ да Адраджэньня, уздыму, аднаўленьня нацыі. Спрошчаная формула палянэзы "Разьвітаньне з Радзімай" ніяк не асэнсоўваецца й не суадносіцца з глыбінёй і магутнасьцю твора і як аргумент супраць прызначэньня яго Гімнам Беларусі (гл. ЛіМ, 45 ад 12.11.93) усур'ёз не ўспрымаецца. Пасудзіце, ці можна адмовіць у працы Чалавеку, у якога прозвішча Заяц? Ці можна адмовіць у працы людзям, што пражывалі ў Менску на прашпекту У.Леніна? Пры адным жа вымаўленьні назвы г. Рыгі ўсіх павінна было б ванітаваць, бо ў слоў Рыга й адрыжка адзін корань. Этыкетка "Разьвітаньне з Радзімай" сатрэцца сама сабой, як назоў БССР ці прашпект У.Леніна. Трэба даць дазвол на працу Палянэзу Агінскага, каб штодзень, апаўначы мы маглі агляну́цца на пройдзены Дзяржавай шлях, падзякаваць Гаспадару Усяленнай за тое, што гэты дзень адбыўся й развітацца да заўтра. А заўтра раніцой пад гукі Гімна ізноў сустрэцца з Радзімай -- новай, адпачыўшай, акрылёнай, асьвятлёнай Сонцам. І так заўжды!

**Ад імя Рады Латвійскага Таварыства Беларускай Культуры "Сьвітанак"**

**Старшыня Таварыства Мікола ЯРЧАК.**



# BELARUSIAN ASSOCIATION OF AUSTRALIA

BOX No. 94, P.O. FAIRFIELD. N.S.W. 2165

Australia

*Снежань — 1993 г.*

**Галоўнаму Рэдактару газэты "Голас Радзімы"**

Вельмі Шаноўны Сп. Рэдактар!

З далёкай Аўстраліі мы пільна наглядаем за прабегамі падзей і жыцця ў далёкай ад нас, але роднай Рэспубліцы Беларусь, і кожны поспех напаўняе нашы сэрцы вялікай радасцю і таксама запэўняе нас, што Рэспубліка Беларусь паволі, але з упэўненасцю ідзе наперад да канчатковага замацавання сваёй дзяржаўнай Незалежнасці і забяспечання свабоднага жыцця і дабрабыту сваім грамадзянам.

Вашая вельмі шаноўная і шырока чытаная газэта дапамагае нам утрымоўваць патрэбную лучнасць з далёкім родным краем, і я зычу вам, сябрам Рэдакцыйнай Калегіі, супрацоўнікам ды чытачам газэты "Голас Радзімы" найлепшага здароўя і далейшых вялікіх поспехаў у надыходзячым Новым -- 1994-м годзе.

**Жыве Беларусь!!!**

**З пашанай да ўсіх вас**
**Алесь АЛЕХНІК,**
**Гэнэральны Сакратар.**



**Першы ў вобласці дзяржаўны ліцэй адкрыўся ў Віцебску. Ён створаны на базе школы N37 пры садзейнічанні трох інстытутаў -- медыцынскага, тэхналагічнага і педагагічнага. Пры ліцэі пакуль адкрыта чатыры класы. Паглыбленыя заняткі па спецыяльных прадметах з дзецьмі вядуць не толькі школьныя настаўнікі, але і прафесары, і выкладчыкі віцебскіх інстытутаў.**

**НА ЗДЫМКУ: ліцэісты на практычных занятках па біялогіі.**

**Фота А. ХІТРОВА.**

## Мікола ЕРМАЛОВІЧ:

# "НАЦЫЯНАЛІЗМ, ЯК І ШАЎІНІЗМ, – ПРЫКМЕТА СЛАБАСЦІ НАРОДА"

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

-- Так, і гэта выявілася ў XYI стагоддзі, калі ад Вялікага Княства Літоўскага былі адабраны ўкраінскія землі, дык яно пачало называцца Вялікім Княствам Літоўскім і Жамойцкім. Гэты факт зафіксаваны ў летапісах, хроніках.

-- Некаторыя аўтары Вялікае Княства Літоўскае называюць беларуска-жамойцкай ці беларуска-жамойцка-ўкраінскай дзяржавай. Ці правамоцна так называць гэту дзяржаву?

-- Вялікае Княства Літоўскае было поліэтнічнай дзяржавай. Там жылі і беларусы, і ўкраінцы, і летувісы, і рускія, і іншыя. Аднак Вялікае Княства Літоўскае было перш за ўсё беларускай дзяржавай. У летапісах, хроніках нідзе не сказана, каб які-небудзь літоўскі князь заваёўвае беларускую зямлю. Наадварот, мы ўвесь час бачым: Міндоўг заваёўваў Літву (дарэчы, роля Міндоўга перабольшана ў гісторыі, ён зрабіў першую спробу ўтварыць гэтае гаспадарства, аднак не давёў яе да канца), Войшалак, яго сын, зноў-такі з пінянамі і навагародцамі "Литву зане", а пасля пачаў ворагаў "избивать" у Літве. Ясна, што ён ваяваў з праціўнікамі ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага ў самой жа Літве. Далей ён заваёўваў Нальшчанскую і Дзевалтоўскую землі (усходнюю частку сучаснай Летувы. -- **А.Л.**) і там таксама сваіх ворагаў "избил".

Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага праходзіла пад дамінуючай роляй беларускіх земляў, спачатку Навагародскай, пасля Полацкай і іншых. Літоўскія землі, калі і мелі, то толькі пасіўнае значэнне ва ўтварэнні Вялікага Княства Літоўскага. Таму зразумела, чаму тут была пануючай беларуская культура і чаму дзяржаўнай мовай стала беларуская.

-- Нас у сярэднявеччы і амаль да пачатку XX стагоддзя называлі ліцвінамі, ці літоўскім народам, або літвой, ды і продкі сучасных беларусаў сябе так называлі. Дарэчы, пэўная частка беларусаў ліцвінамі сябе і сёння лічыць. У сувязі з гэтым многія на Беларусі выступаюць за тое, каб вярнуць традыцыйную, гістарычную назву нашай краіне -- Літва. Як вы ставіцеся да гэтага?

-- Я да гэтага вельмі адмоўна адношуся. Я лічу, што назва Беларусь -- гэта саманазва, першае ўпамінанне Белай Русі, тычыцца 1305 года. Між іншым, яна ўспамінаецца ў сувязі з Гедымінам, які прадаваў палонных ляхаў на Літве і на Белай Русі. Тут прасочваецца аналогія з Прусіяй. Гэтаксама, як усходніх немцаў называлі прусакамі, паколькі яны былі на тэрыторыі старажытнай Прусіі, так і панямонскіх беларусаў, якія жылі на тэрыторыі старажытнай Літвы, называлі ліцвінамі. І вядома, што яны адыгралі вырашальную ролю ва ўтварэнні Вялікага Княства Літоўскага, пасля палачанаў занялі дамінуючае месца ў нашай гісторыі. Аднак назва Белая Русь, якая спачатку адносілася да Полаччыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны, паступова прасоўваецца на захад і ўсё больш пашыраецца, і ўжо ў нашым стагоддзі канчаткова замацоўваецца за ўсёй тэрыторыяй Беларусі, а назва Літва належыць толькі сучаснай Літве. І таму вяртанне назвы Літва я б не лічыў разумнай прапановай. У нас ужо нацыянальная свядомасць існуе як у беларусаў. Ужо Дунін-Марцінкевіч называў сябе "дударом беларускім", Францішак Багушэвіч выдаў "Дудку беларускую" і "Смык беларускі", Янка Купала таксама пісаў аб ворагах беларушчыны. Усе яны ўсведамлялі сябе як беларусы. Гэту назву закасаваць і ўзнавіць "Літву" — назву для Беларусі — наогул нерэальна.

-- З усяго сказанага вамі ясна, што ў нас, беларусаў, была свая дзяржава -- княствы Полацкае, Тураўскае, Смаленскае і Вялікае Княства Літоўскае. І таму нельга гаварыць, што Беларусь для іншых народаў заўсёды была разменнай манетай, а гэта думка часам праводзіцца ў некаторых выданнях. Нельга паверыць, што беларусы былі заўсёды рахманым, бесхрыбетным і падатлівым народам. Толькі рэакцыйныя выданні могуць такое пісаць. І яны гэтым хочуць паказаць, што калі Беларусь не здольная была раней да самастойнага жыцця, дык яна і зараз няздольная да гэтага. Але гістарычныя факты сведчаць пра іншае. Беларускі народ заваёўваў іншыя народы: продкаў сучасных латышоў, жамойцаў, украінцаў. Дарэчы, калі заваявалі нашы князі Вялікага Княства ўкраінскія землі?

-- Альгерд заваяваў жа Падолле і Кіеўскую зямлю.

-- Гэта даказана гістарычна?

-- Гэта Сіняводская перамога яго ў 1362 годзе. Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага ішло ў далейшым да пашырэння шляхам заваявання ўкраінскіх земляў.

-- Наша дзяржава, атрымліваючы не раз перамогі ў ваеннай справе, аказвала таксама свой уплыў у ваеннай, палітычнай, эканамічнай, культурнай галінах на іншыя народы: на Жамойць, Украіну, Польшчу, Масковію, Прусію. І гэта таксама даводзіць, што Беларусь не была разменнай манетай для іншых народаў.

-- Унікальны выпадак. У той час, калі ўтварылася Вялікае Княства Літоўскае, ніводная еўрапейская дзяржава дзяржаўнай мовай не мела сваю родную мову. У іх была лацінская мова. А вось у нас дзяржаўнай мовай стала старабеларуская.

-- А Руская дзяржава?

-- Руская дзяржава таксама, як і наша, сваёй дзяржаўнай мовай мела родную, але Вялікае Княства Літоўскае ўтварылася раней за Рускую дзяржаву. Калі пры Гедыміне ўжо амаль што ўсе беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць, былі ў адзінай дзяржаве, то толькі пры Іване Каліце пачынаецца ўзвышэнне Масквы, Маскоўскага княства, будучага цэнтра Вялікаросіі. Такім чынам, беларуская народнасць сфармавалася раней, і дзяржава наша ўзнікла раней за маскоўскую. Беларуская мова становіцца дзяржаўнай, і ў гэтых адносінах яна ідзе наперадзе многіх краін, нават той жа Польшчы. Ягайла, напрыклад, калі стаў польскім каралём, прыехаўшы ў Кракаў, прывёз сваіх дарадцаў, сваю канцылярыю. І польскі двор загаварыў на беларускай мове.

-- Ці можна сказаць сёння, што беларуская гісторыя была самай трагічнай у Еўропе?

-- Аб гэтым вельмі добра сказаў Кандрат Крапіва: беларусы пасяліліся на бойкім месцы. Тэрыторыя Беларусі знаходзіцца на мяжы двух водападзелаў: Балтыйскага і Чарнаморскага. Валоданне гэтымі землямі давала магчымасць працягваць далейшую заваёўніцкую палітыку. Таму заваёўнікі, спачатку навагародскія (навагрудскія) і кіеўскія князі, пазней усходнія і заходнія, г.зн. Масква і Польшча, увесь час імкнуліся завалодаць тымі ключавымі месцамі. Становішча Беларусі сапраўды было цяжкае. Асабліва вялікі ўдар нанеслі нам крыжакі. Фактычна Полацкае княства было марской дзяржавай. Рускі гісторык Салаўёў прывёў дакумент за 1519 год, з якога відаць, што яшчэ праз тры стагоддзі палачане памяталі, што Рыга ўзнікла на тэрыторыі іх зямлі. І тым, што крыжакі адціснулі Полацк ад Балтыйскага мора, яны абцяжарылі далейшую гісторыю Полацкага княства і ўсёй Беларусі. Яна аказалася заціснутай паміж заходнімі і ўсходнімі суседзямі. Нягледзячы на гэтыя цяжкія гістарычныя варункі, яна ўсё-такі захавала сваю тэрыторыю, культуру, мову.

-- Самай зацятай была барацьба не з заходнімі, паўднёвымі ці паўночнымі суседзямі, а з усходнімі. Такім чынам, калі нашы продкі маглі даць раду татарскім або галіцка-валынскім ці крыжацкім нападам на беларускую тэрыторыю, разбіць і выгнаць ворага, дык вельмі цяжка ішла барацьба на ўсходнім накірунку. Так, спачатку беларускае войска, ці аб"яднанае беларуска-польска-ўкраінска-жамойцкае войска, мела перамогу, але пасля (другая палова XYI-XYII стагоддзі) гэта давалася ўсё цяжэй, перамогі спалучаліся з паразамі. Каб не цяжкая для нас Лівонская вайна, не палітыка Івана Жахлівага, мы б ніколі не аб"ядналіся з Каралеўствам Польскім у адну дзяржаву Рэч Паспалітую або гэтае аб"яднанне адбылося б значна пазней.

-- Вядома, што уніі з Польшчай, асабліва Люблінская, былі для Беларусі кампрамісам у пэўным сэнсе. І аб"яднанне з Польшчай, і аб"яднанне з Масквой было злом для Беларусі. Аднак трэба было выбіраць меншае зло. Ім і было аб"яднанне з Польшчай. Выбар быў вельмі правільны. Польшча была намнога слабейшая за Маскву, і таму яна не магла "пераварыць" усё Вялікае Княства Літоўскае, апалячыць яго. Яна змагла апалячыць толькі нашу арыстакратыю. Аднак, калі б Беларусь аб"ядналася з Масквой, то, я думаю, зараз мы не мелі б нават і паняцця аб Беларусі.

**(Заканчэнне будзе).**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# БНР — БССР — РБ,

## або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

Сучасныя рухі за аднаўленне саюзнай дзяржавы, адпавядаючай сваёй структурай новым умовам і новай ідэалогіі (мінулыя формы ў многім сябе дыскрэдытавалі), з"ява натуральная -- адлюстраванне плюралізму думак і палітычных настрояў. Чым болей будуць нарастаць крызісныя з"явы ў эканоміцы і палітыцы, пагаршацца жыццёвы ўзровень народа, падаць аўтарытэт закона, множыцца злачыннасць, тым мацнейшай будзе настальгія па мінулых часах.

Тэарэтычна магчыма стварэнне канфедэратыўнай дзяржавы з захаваннем раўнапраўя і суверэннасці яго суб"ектаў. Але рэалізаваць ідэю не так проста. І ў гэтай сферы дае аб сабе знаць ідэалогія рынычных адносін. Насцярожваюць абражальныя выказванні расійскіх палітыкаў аб "рэспубліках-утрыманках".

Тэкст новай Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі прадугледжвае артыкул, што забараняе выхад нацыянальных рэспублік (дзяржаў) са складу Расіі. Тым самым праву нацый на самавызначэнне даецца кардынальна новая трактоўка. Расійская палітычная партыя, якая называе сябе ліберальна-дэмакратычнай, марыць аб Расійскай імперыі ў дарэвалюцыйных граніцах і падзеле тэрыторыі дзяржавы на губерні з роўнай колькасцю насельніцтва. А гэта ўжо нават не "Северо-Западный край",.. як нешта ўсё ж адміністрацыйна адзінае.

З праграмнымі ўстаноўкамі партыі Жырыноўскага ў нацыянальным пытанні суседнічаюць сённяшнія крытычныя ацэнкі федэралісцкай палітыкі бальшавікоў.

А.Салжаніцын лічыць, што Ленін, з тактычных меркаванняў раздрабіўшы адзіную Расію, аб"явіў ілжэфедэрацыю, замест губерняў нарэзаў аўтаномныя рэспублікі. А вывад у цэлым такі: "Федерация -- это ложная форма для нас. У нас должно быть единое государство, предусматривающее сильную местную демократию и развитие всех национальных культур". ("Известия", 1993, 6 кастрычніка). Яшчэ больш катэгарычны генерал Д.Валкагонаў у артыкуле "Нас пытаются соблазнить новыми химерами и мифами". Чытаем: "Зюганов, как умный человек, не может не знать, что главные разрушители Союза -- большевики, которые еще в 1920 году стали ликвидировать наиболее прогрессивную форму государственного устройства -- губернии и создавать вместо них национальные образования. Ленин не раз лично "прирезал" от РСФСР десятки уездов к той или иной вновь создающейся республике... Закладывалась мина страшной силы". ("Известия", 1993, 23 лістапада). На сумленні бальшавікоў нямала цяжкіх грахоў (ГУЛАГ не выкрасліш з памяці народнай!), але толькі не тое, што яны не прынялі замшэлы царскі унітарызм, які прызнаваў права на стварэнне дзяржавы толькі за рускімі.

Што тычыцца ленінскай шчодрасці па "тэрытарыяльнай частцы", то тут было ўсялякае. Адзначым, што ў 1919 годзе беларускія землі -- Віцебшчына, Магілёўшчына, Гомельшчына былі перададзены РСФСР, а годам пазней значная частка тэрыторыі Беларусі па расійска-літоўскаму мірнаму дагавору адышла да Літвы.

...Але закончым размову пра з"езд беларусаў свету. Можна зрабіць вывад, што ў цэлым ён **адпавядаў** ідэям, закладзеным яшчэ ва Устаўных граматах 1918 года, г.зн. традыцыйнаму шляху, асвячонаму вопытам многіх нацыянальных дзяржаў. І таму не выпадкова, што ён выказаўся за тое, каб 25 сакавіка было аб"яўлена дзяржаўным святам -- Днём абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

### 11. АБ ГІСТАРЫЧНАЙ ПЕРАЕМНАСЦІ

Пры вырашэнні сучасных праблем дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі нельга не ўлічваць вопыт пройдзенага шляху. Веданне логікі развіцця шай нацыянальнай гісторыі так ці інакш звязана з развіццём дзяржаўнасці на тэрыторыі Беларусі са старажытнейшых часоў і да нашых дзён. Дзяржаўнасць -- гэта фактар, які аказвае вялікі ўплыў на жыццё грамадства. Стан дзяржаўнасці -- у той жа час паказчык узроўню культурнага развіцця народа.

Вядома, што перыядызацыя дзяржаўна-прававых форм мінулага часу -- неабходная ўмова выпрацоўкі рэальнай дзяржаўнай палітыкі.

У гісторыкаў (як і ў філосафаў, палітолагаў, юрыстаў) з'явіліся сур'ёзныя клопаты -- вызначыць становішча Беларусі як суверэннай незалежнай дзяржавы ў аспекце гістарычных задач і перспектыў нацыянальнага развіцця. Раней усім нацыям і народнасцям СССР свяціла ідэя "светлай будучыні", у якой адбудзецца зліццё нацый. Сам факт распаду савецкай федэрацыі -- сведчанне таго, што ўсё надзвычай складаней. Нацыі не толькі не збіраюцца адміраць, але, наадварот, імкнуцца аберагчы сябе ад пагрозы знікнення. Незалежная нацыянальная дзяржава разглядаецца найважнейшым гарантам дабрабыту нацыі.

У выніку карэнным [illegible] змяняецца падыход у ац[illegible] і мінулага, і вызначэнні контураў будучыні. Гістарычны лёс нацый і, значыць, нацыянальнай дзяржавы становіцца важным аб'ектам даследавання -- асяродкам нацыянальнай ідэі, якая па[illegible]на ў канцэнтраваным выг[illegible] увасобіць у сабе важне[illegible]ыя бакі жыцця народаў, іх надзеі. Нацыянальная ідэя, пазбаўленая ад крайнасцяў нацыяналізму і шавінізму, у яе шырокім дэмакратычным разуменні павінна адлюстроўваць у сабе мінулае, сучаснае, асвятляць шлях у будучыню. І тут без "светлай будучыні" таксама не абысціся, бо навошта патрэбна нацыянальная ідэя, калі яна не абяцае нацыі нічога добрага.

Усталяванне грамадскага ладу, арыентаванага на рыначную эканоміку, галоснасць і шматпартыйнасць пацвярджаюць тыя абставіны, што пачаўся новы, вельмі складаны этап гісторыі беларускай дзяржаўнасці. І тым не менш няма падстаў, на наш погляд, узводзіць кітайскую сцяну паміж БССР і РБ. Справа ў тым, што Рэспубліка Беларусь, якая аб'явіла сябе суверэннай і незалежнай, абнавіла сваё імя, герб і сцяг, "выйшла" з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Разам з грамадзянамі яна ўспрыняла яе тэрыторыю, аб'екты дзяржаўнай уласнасці, адміністрацыйна-тэрытарыльны лад, Канстытуцыю і іншыя законы, міжнародныя абавязкі і месца ў ААН. І сам наменклатурна-кіраўніцкі корпус таксама не пакінуў упадабаную кіраўніцкую сферу, якая патрабуе прафесіянальна падрыхтаваных работнікаў.

Ствараючы прававыя асновы абноўленай дзяржаўнасці, бацькі-заканадаўцы воляй-няволяй вымушаны лічыцца з тым каштоўным, што назапашана ў прававой практыцы, асабліва, калі размова ідзе пра грамадзянскае, працоўнае, крымінальнае, сямейнае і судовае права. Не перарваны лік склікання сесій Вярхоўнага Савета рэспублікі, які ідзе ад 30-х гадоў. Ёсць рацыя ў выказванні, што калі б не было БССР, не было б і сённяшняй свабоднай і незалежнай Беларусі ("Звязда", 1993, 6 лістапада).

Наўрад ці ў даным выпадку адэкватна адлюстроўвае сутнасць падзей думка пра тое, што 19 верасня 1991 года на змену беларускай савецкай дзяржаве прыйшла Рэспубліка Беларусь ("Сов. Бел". 1993, 25 сакавіка). Напомнім чытачу, што ў гэты дзень Вярхоўны Савет прыняў Закон аб перайменаванні БССР у Рэспубліку Беларусь і ўнясенні адпаведных папраўак у Дэкларацыю аб суверэнітэце, абвешчанай у ліпені 1990 года.

Можна ў адзін дзень у выніку перавароту змяніць вышэйшае дзяржаўнае кіраўніцтва, але не дзяржаву ў цэлым. Будзе неабдумана таксама, на наш погляд, атаясамліваць дзяржаву і ўрад, дзяржаву і палітычны рэжым. Немагчыма ўявіць рэальна існуючую дзяржаву без тэрыторыі, грамадзян, без піраміды цэнтральных і мясцовых органаў улады і кіраўніцтва. Дзяржава -- гэта ўся ўрэгуляваная правам сістэма грамадскіх адносін. Гэта механізм, што забяспечвае функцыяніраванне ўлады, рэалізацыю грамадзянам іх правоў. Змена дзяржаўных форм -- працэс не аднаго дня. Кастрычніцкай рэвалюцыі, самай радыкальнай з усіх нам вядомых, спатрэбіўся час, каб замяніць стары апарат кіравання новым. Бальшавікі грэзіліся не пакінуць ад яго каменя на камені. І што ж? У 1922 годзе Ленін прызнаваў, што "створаны ў Расіі апарат запазычаны ад царызму" і толькі ледзь-ледзь "падмазаны савецкім мірам", што ён "уяўляе сабой буржуазную і царскую мешаніну".

Ствараючы новыя формы дзяржаўнай і грамадскай арганізацыі, мы ўглядваемся ў мінулае, каб узяць урокі, убачыць этапы руху, тэндэнцыі гістарычнага працэсу.

Зусім натуральна, калі палітычныя дзеячы рэспублікі, і перш за ўсё яе першыя асобы, у той ці іншай сувязі выказваюцца па праблемных тэарэтычных пытаннях гісторыі і сучаснасці. Успомнім даклад прэм'ера Вячаслава Кебіча ў Міры, выступленні ў друку народных дэпутатаў.

Тэматычная накіраванасць нататак абавязвае нас закрануць выказванні кіраўніка нашага парламента С. Шушкевіча, зробленыя з нагоды трэцяй гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце рэспублікі. Ён адзначыў, што з моманту прыняцця Дэкларацыі "пачаўся новы, пяты перыяд будаўніцтва суверэннай, нейтральнай дэмакратычнай дзяржавы". Пры гэтым былі накіданы некаторыя штрыхі да кожнага з пяці гістарычных этапаў. (Выступленне на тэлебачанні і радыё 27 ліпеня 1993 года. "Н.Г.", 1993, 29 ліпеня).

Каб расставіць вехі гісторыі, С. Шушкевіч звярнуўся да стану дзяржаўных форм: а) Полацкае княства і Кіеўская Русь; б) Вялікае Княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае; в) унія з Польшчай; г) Паўночна-Заходні край спачатку Расійскай, а пасля савецкай імперыі; д) незалежнае існаванне пасля распаду СССР.

Сапраўды, перыядызацыя нагісторыі народа, як выраз навуковага погляду на глыбінныя заканамернасці гістарычнага працэсу, заўсёды выклікала дыскусіі. Дарэвалюцыйная Расія і СССР --розныя перыяды гісторыі, таму што карэнным чынам адрозніваецца прырода гэтых дзяржаў. І другая акалічнасць. Часта згадваемы цяпер органамі друку праславуты Паўночна-Заходні край стаў у 1919 годзе самастойнай савецкай рэспублікай, прызнанай Арганізацыяй Аб"яднаных Нацый. Як бы мы сёння ні называлі Савецкі Саюз, але бясспрэчны факт: у выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі ў былой Расійскай імперыі нацыянальна-тэрытарыяльны прынцып стаў адной з асноў дзяржаўнага будаўніцтва, фарміравання самастойных нацыянальна-дзяржаўных утвар[illegible]яў.

Цікавая ду[illegible] С.Шушкевіча аб падыхо[illegible] да ацэнкі мінулага. Сапраўды, тут прасцей простага скаціцца да вульгарнага схематызму. Немагчыма цяперашнімі меркамі вымяраць з"явы мінулага. Дэмакратызацыя мі[illegible]ржаўных адносін -- гэта [illegible]лікшы здабытак чалавецтва XX стагоддзя. Права нацый на самавызначэнне як прынцып міжнародных адносін стаў пануючым у XX стагоддзі. Капіталізм, які некаторыя сучасныя ідэолагі выдаюць за зебру без адзінай плямкі, багацеў на рабагандлі. Капіталізму не чужым было ўтварэнне вялізных імперый. І, можа быць, Расійская імперыя, у складзе якой Беларусь знаходзілася больш за сто гадоў, не самая горшая з іх.

Хацелася б далучыцца да вываду С.Шушкевіча: "Нашы продкі жылі па законах свайго часу, перамагалі і былі пераможанымі, падпарадкавалі сабе іншых і былі падпарадкаванымі. Не будзем іх судзіць па мерках сучаснасці, не будзем будаваць нашу новую гісторыю ў адпаведнасці з той або іншай канцэпцыяй мінулага" ("Н.Г.", 1993, 29 ліпеня). Толькі магчыма было б больш дакладна адрасаваць такую параду непасрэдна самім гісторыкам, каб вольна ці міжвольна не шкодзілі наладжванню сяброўскіх адносін з суседнімі дзяржавамі.

Прызнанне гістарычнай пераемнасці ставіць на мэце высвятленне тэндэнцый грамадскага развіцця, уважлівыя адносіны да гістарычнага вопыту, выяўленне станоўчага ў створаных раней дзяржаўна-прававых формах. З крайне складанага, поўнага драматызму працэсу фарміравання беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці не выкінеш беларускі адраджэнскі рух, не перакрэсліш БНР, а тым больш не павернешся спіной да БССР.

Беларуская савецкая дзяржаўнасць прайшла, на наш погляд, шэраг этапаў свайго развіцця. Першы этап: студзень-люты 1919 года --абвяшчэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі, наладжванне цэнтральнага апарату кіраўніцтва, адміністрацыйных сувязей з месцамі. Другі: люты--ліпень 1919 года -- існаванне аб"яднанай Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі, у якую ўвайшлі толькі Гродзенская і Мінская губерні. Трэці: ліпень 1920 -- снежань 1922 года -- аднаўленне ССРБ, афармленне саюзных адносін з РСФСР на падставе Дэкрэта РСФСР ад 1 чэрвеня 1919 года аб ваенна-палітычным саюзе савецкіх рэспублік і двухбаковых дагавораў. Чацвёрты: 1923--1991 гады -- БССР у складзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Пяты: аб"яўленне ў 1991 годзе БССР незалежнай дзяржавай, выхад рэспублікі са складу СССР, уваходжанне ў Садружнасць Незалежных Дзяржаў, рэфармаванне палітычнай і сацыяльна-эканамічнай структуры.

Такім чынам, сёння мы з"яўляемся грамадзянамі "пятай рэспублікі", якая, мяркуюць, павінна стаць дэмакратычнай, прававой, сацыяльнай дзяржавай. Зрэшты, паняцце "сацыяльная дзяржава" мала пра што гаворыць: усякая дзяржава ў той ці іншай меры "сацыяльная". А вось унясенне ў новую Канстытуцыю рэспублікі тэрміна "сацыяльна справядлівая дзяржава", пра што марылі і мараць працоўныя нізы, значна праясніла б характар грамадскага і дзяржаўнага ладу, які трэба пабудаваць.

Заслугоўвае ўвагі думка, згодна з якой гісторыя Беларусі з 1917 года і да нашых дзён разглядаецца як перыяд з трыма этапамі: "...БНР і БССР былі звеннямі адзінага працэсу нацыянальнага самавызначэння беларускага народа. Сёння ўсе мы з"яўляемся сведкамі трэцяга этапу ў станаўленні незалежнай беларускай дзяржавы" ("Сов.Белоруссия", 1993, 25 сакавіка). Пытанні перыядызацыі развіцця беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці трэба яшчэ высветліць у дыскусіях. А сёння можна рызыкнуць выказацца аб праблеме толькі ў пастановачным плане.

Чым глыбей грамадскія перамены, тым цяжэй зразумець і ўлічыць аб"ектыўныя і суб"ектыўныя факты, што аказваюць рашаючае ўздзеянне на ход палітычных і эканамічных працэсаў. Крывавыя, драматычныя падзеі ў Маскве 3--4 кастрычніка 1993 года развеялі рамантычныя ўяўленні аб фарсіравана насаджаемай рыначнай эканоміцы, якая самарэгулюецца. Крызіс улады (насуперак наконам прававой дзяржавы і падзялення ўлады) скончыўся роспускам Вярхоўнага Савета і паралічом канстытуцыйнага суда Расійскай Федэрацыі, заклікам Прэзідэнта да роспуску ўсіх прадстаўнічых савецкіх органаў.

Пазначыўся ўхіл у бок аўтарытарызму ў кіраўніцтве, што выклікала трывогу нават у колах, якія падтрымліваюць прэзідэнцкія ініцыятывы. Стала рэальнай небяспека, што праследаванне так званых чырвона-карычневых і камуна-фашыстаў перарасце ў ліквідацыю апазіцыі ўвогуле. Заклікі "Раздавім гадзіну!" --уваскрашаюць дух 30-х гадоў. Будзе да месца прывесці тут меркаванне вядомага публіцыста, палітолага, аналітыка, прыхільніка рэформ расійскага Прэзідэнта Ота Лацыса. Па гарачых слядах, калі яшчэ дыміўся "Белы дом", ён пісаў: "Не забудзем, што паражэнне мяцежнікаў не зняло ніводнай з праблем, якія абцяжарваюць наша жыццё, а тое-сёе, можа быць, і яшчэ больш ускладнілася ў выніку іх выступлення. Вырашэнне гэтых праблем патрабуе здаровага, нармальна дзеючага грамадскага арганізма, а ён немагчымы без апазіцыі. Крайне важна, каб любая апазіцыйная ідэалогія, што выключае заклікі да насілля, была прадстаўлена легальна, а не загнана ў падполле як перад выбарамі, так і пасля іх" ("Известия", 1993, 7 кастрычніка).

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

**Працяг. Пачатак у №№ 47--52.**

# НОВЫЯ ЗВЕСТКІ ДА БІЯГРАФІІ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Раскіданасць звестак па розных фондах значна ўскладняе любы пошук. Каля паўсотні тамоў метрычных кніг з касцёлаў Віленскай рыма-каталіцкай кансісторыі ўтрымлівае фонд 1781 "Магілёўская рыма-каталіцкая кансісторыя". У адным з іх (ф.1891, воп.37, спр.37) пад агульнай вокладкай сабраны выпісы аб нараджэннях, смерці і шлюбах за 1883 год з метрычных кніг 12 касцёлаў паўночна-ўсходняга абшару Віленскай губерні. У выпісе з кнігі "Дисненской римско-католической церкви о родившихся" (арк.28, адв.- 29) чытаем наступнае (тэкст падаецца на мове арыгінала):

"Фамилия окрещенного: Вацлав Ластовский. Номер -- 164. Счет родившихся мужского пола -- 83. Число рождения -- 27. Число крещения -- 26. Когда, где, кто и кем, одною ли водою, или со всеми обрядами таинства окрещен: тысяча восемьсот восемьдесят третьего года декабря двадцать шестого дня в Задорожском р.-к. приходском костеле кс.Антоний Аудыцкий настоятель онаго костела окрестил младенца именем Вацлав с совершением всех обрядов таинства.

Какого сословия и общества, каких родителей, когда и где, т.е. в каком приходе родился крещенный? -- Мещан Устина и Анны с Жвирбовских Ластовских законных супругов сына, родившагося сего года октября двадцать седьмого дня в застенке Колесникове Задорожского прихода.

Кто были по имени и прозванию восприемники при Св.Крещении и кто присутствовал? -- Восприемниками были дворяне: Александр Толопила с Софиею Немировною девицею".

Знойдзены метрычны запіс дазваляе ўнесці наступныя карэктывы ў біяграфію слыннага сына беларускага народа:

1) Нарадзіўся В.Ластоўскі ў 1883 годзе 27 кастрычніка па старым або 8 лістапада па новым стылі.

2) Месцам яго нараджэння быў засценак Калеснікава Задарожскага прыхода Дзісенскага павета Віленскай губерні. Па сучасным адміністрацыйным дзяленні гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці. Як высветлілася ў ходзе дадаткова праведзенага даследавання, хутар Калеснікава ў Пліскім сельсавеце Глыбоцкага раёна існаваў літаральна да нядаўняга часу і быў ліквідаваны з прычыны пераезду яго насельнікаў на іншае месца жыхарства рашэннем N 142 Віцебскага аблвыканкома ад 13 траўня 1986 года. Першы з вядомых на сёння напамінаў аб засценку Калеснікава як прыватным уладанні Дзісенскага павета Віленскай губерні адносіцца да 1866 года (1883, 263).

Касцёл у вёсцы Задарожжа (якую зараз часцей называюць Усава) Пліскага сельсавета захаваўся да нашага часу. Аднак яго існуючы цагляны неагатычны будынак быў узведзены ў 1910 годзе, значна пазней часу хрышчэння ў старым храме В. Ластоўскага.

3) Бацькі Вацлава Юстын (Устин) і Ганна са Жвірбоўскіх Ластоўскія належалі да гарадскога саслоўя мяшчан (магчыма, мяшчан горада Дзісны, бо запіс аб нараджэнні і хросце іх сына Вацлава быў унесены ў метрычныя кнігі Дзісенскага касцёла).

Апроч гэтых пэўных звестак метрычны запіс аб нараджэнні В. Ластоўскага дае падставы акрэсліць кола пытанняў, вырашэнне якіх можа мець прынцыповае значэнне для расшыфроўкі ранняй біяграфіі Власта:

1) Чаму запіс аб нараджэнні і хросце В. Ластоўскага ў Задарожскім касцёле быў унесены ў выпіс з метрычнай кнігі за 1883 год Дзісенскага, а не Задарожскага касцёла? З якой прычыны гэта магло адбыцца?

2) Якое дачыненне мелі дваране Талапіла і Нямірава да сямейства мяшчан Ластоўскіх?

3) Каму ў 1883 годзе належаў засценак Калеснікава? Калі ён належаў хросным бацькам Вацлава, ці мелі апошнія якое-небудзь дачыненне да вёскі Пагост (або яе ваколіц) у Дзісенскім павеце, дзе Вацлаў пазней скончыў народную школу?

Працяг пошуку, думаецца, паставіць перад даследчыкамі яшчэ шмат новых пытанняў. На свет Божы паказалася толькі адно -- самае першае -- звяно ланцужка. Справа -- за іншымі.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Віктар РАКАЎ**

### ЧАС

І не застогнеш, і не заплачаш --
Слёзы ракою сплылі з ракой.
Белай лілеі зыбкі гарлачык
Хіліцца к берагу на супакой.

На адыходзе наш час,
на зыходзе,
Трэба паспець на яго караблі,
Час падбірае сваё. А ў модзе
Будзе другое на гэтай зямлі.

Грэху багата ў чарзе
на пагрузку:
Часта шыкоўна, шырока жылі,
Не падпляталі свае кашалі,
Надта ж бяздумна
вяліператруску.

Клопатна часу. І, пэўна ж, таму
Гоніць адно за адным
ён імгненні,
Каб як хутчэй замяніць
пакаленні,
Іначай --
наступіць хана ўсяму.

Хоць праклінаць будуць --
не, не час --
Справы па часе,
а значыць -- нас.
Вось так!

### У АПУСЦЕЛАЙ ВЁСЦЫ

Ціш.
Немата.
Бы ў змусце.
Цяжка стаю на разоры.
Вось-вось, здаецца, запусціць
Паданкам сад ці падпорай.

Вокны крыж-накрыж зашыты...
...Што ж гэта мы нарабілі!!
Выстаяўшы у бітвах,
Край свой узняўшы з нябыту,
Раптам усё загубілі.

Як! Гэта ж проста вельмі:
Варта ударыць па людзях
І -- апроч мёртвай пустэльні
Нічога нідзе не будзе.

А іх жа трымалі ў загонах,
А ў свет -- пашпартоў не давалі.
Хто толькі не клаў ім законы
У брудзе сядзець да скону --
Загоны усё ж не ўтрымалі.

А сёння якая мера!
Ды сёння -- няма каму гнуцца...
...Гонім сябе наперад,
Назад адкуль не вярнуцца.

**Змітрок МАРОЗАЎ**

### ПРЫКМЕТЫ ЧАСУ

Разбіты даўнія святыні,
А новых Бог не даў -- няма!..
Душа падобна да пустыні,
Дзе зло гняздзіцца, як чума.

А чалавек на чалавека
Глядзіць, нібыта ваўкалак...
І паказаў Чарнобыль веку
Смяротны, ядзерны кулак.

## ДА 195-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Адама МІЦКЕВІЧА










(Заканчэнне. Пачатак фотарэпартажу на 1-й стар.).

Нарадзіўся Адам Міцкевіч у 1798 годзе на хутары Завоссе Баранавіцкага раёна. Мілай сэрцу Белай Русі прысвяціў ён многія паэтычныя радкі. Тэмы і вобразы сваіх твораў Адам Міцкевіч чэрпаў з жыцця, з казак і паданняў, з народнай творчасці беларусаў. Яго славутыя балады "Світязь" і "Світязянка" створаны на падставе народных паданняў, у іх апеты прагажосць і чысціня возера Світязь, дадзены яркія незабыўныя замалёўкі беларускай прыроды. У паэмах жа "Дзяды" і найбольш значнай -- "Пан Тадэвуш" Адам Міцкевіч даў шырокую, каларытную карціну народнага жыцця Беларусі, стварыў яркую галерэю вобразаў мясцовай шляхты.

З 1829 года Адам Міцкевіч знаходзіўся ў эміграцыі. Гэты факт выклікаў даволі спрэчныя меркаванні і тлумачэнні літаратурных крытыкаў, даследчыкаў творчасці паэта. У савецкі перыяд была зроблена спроба яшчэ больш "патрыятызаваць" гэту выдатную асобу. І таму Адаму Міцкевічу прыпісваюць актыўны ўдзел у дзекабрысцкім руху царскай Расіі. Так, ён ведаў многіх дзекабрыстаў: К.Рылеева, А.Бястужава, але ў самім руху ніякага ўдзелу не прымаў. Гэты факт неабвержна даказаны.

Іншая спрва, што Адам Міцкевіч быў членам тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў, разгромленых царызмам у 1823 годзе. І каб пазбегнуць арышту і праследаванняў, Адам Міцкевіч вымушаны быў паехаць у эміграцыю.

Чытаючы ў Парыжы курс лекцый па славянскіх літаратурах, ён гаварыў аб беларусах: "У іх казках і песнях ёсць усё... Усю сваю гісторыю на зямлі яны прайшлі ў страшэннай галечы і прыцясненні". Беларускую мову вялікі паэт назваў "самай гарманічнай з усіх славянскіх моў, менш за ўсё зменена́й".

Паэтычная спадчына Адама Міцкевіча аказала вялікі ўплыў на фарміраванне і развіццё беларускай літаратуры, на паэзію Я.Купалы, М.Багдановіча, Я.Коласа.

**НА ЗДЫМКАХ:** макет хутара Завоссе, дзе нарадзіўся паэт; генеалагічнае дрэва роду Міцкевічаў; творы Адама Міцкевіча, што выдаваліся ў розныя гады; дом-музей паэта ў Навагрудку.

Здымкі з фотатэкі **БЕЛІНФАРМа** і **Віктара СТАВЕРА.**

*ТВОРЧАСЦЬ Васіля БЫКАВА Ў ПОЛЬШЧЫ*

# ВАЙНА І ЧАЛАВЕК: ФІЛАСОФІЯ, ЭТЫКА, МАРАЛЬ

Чалавек на вайне -- гэта была ў шасцідзесятых і сямідзесятых гадах цэнтральная, самая важная тэма ў сучаснай беларускай літаратуры. Адным з творцаў таго накірунку ў літаратуры з'яўляецца выдатны беларускі пісьменнік -- Васіль Быкаў. Характэрнай рысай яго твораў ёсць менавіта тое, што яны паказваюць вайну не цераз вялікія панарамы, але цераз прызму лакальных, мясцовых падзей, не вельмі важных з стратэгічнага погляду. Аднак у гэтых творах добра відаць адзіночнага чалавека, яскрава праяўляецца яго характар, асабліва чалавека сумленнага і сапраўднага.

Васіль Быкаў дэбютаваў у 1949 годзе апавяданнем "У той дзень", надрукаваным у "Гродзенскай праўдзе". Першая яго кніга "Жураўліны крык" выйшла ў свет у 1960 годзе. Два гады пазней, у 1962-м, выйшла ў Мінску "Трэцяя ракета". Гэтую аповесць упершыню пераклаў на польскую мову малады тады польскі празаік Эўгеніюш Кабатц. Аповесць беларускага пісьменніка выдаў Паньствовы інстытут выдаўнічы ў Варшаве ў 1963 годзе. Гэта быў польскі дэбют Быкава. Кніжку адразу заўважыла наша крытыка. Рэцэнзіі апублікавалі часопісы "Поможэ", "Пшыязьнь", "Новэ ксёнжкі", "Тыгоднік дэмакратычны" і "Жыце літэрацке".

Польская літаратурная крытыка ўбачыла, што з'явіўся ў Беларусі выдатны мастак слова, пісьменнік вялікага таленту. Рэцэнзент часопіса "Новэ ксёнжкі" Фларыян Няўважны першы ў Польшчы напісаў, што Быкаў зусім інакш, па-другому паказвае вайну. "Аўтар, -- піша Няўважны, -- не пайшоў па слядах Канстанціна Сіманава -- не стварыў вялікай эпапеі аб вайне. Яго кніжка напісана ад першай асобы, ад імя простага салдата, і яна прыдае ўражэнне запісу аднаго бою". Другі польскі крытык, Рышард Навакоўскі, убачыў у аповесці Быкава нейкія паралелі з выдатным творам Віктара Някрасава "У акопах Сталінграда". Навакоўскі таксама ўбачыў у "Трэцяй ракеце" антываенныя тэндэнцыі. І вельмі справядліва назваў гэтую аповесць "добрай кніжкай для ўсіх".

У 1964 годзе польская газета "Трыбуна роботніча" ў Катовіцах надрукавала фрагменты "Альпійскай балады" ў перакладзе на польскую мову Я.Кавальскага. Праз год "Альпійскую баладу" ў фрагментах апублікаваў "Жолнеж Польскі Людовэй".

Аповесць "Мёртвым не баліць" у перакладзе Зямовіта Фядэцкага надрукавалі ў фрагментах часопісы "Месенчнік літэрацкі" і "Культура" ў 1967 годзе, а ў 1969-м часопіс "Тврочосць" надрукаваў частку аповесці "Праклятая вышыня", якую пераклаў Віктар Варашыльскі. Такім чынам, ужо да канца 60-х гадоў польскія чытачы пазнаёміліся амаль з усімі лепшымі творамі Васіля Быкава.

У 1970 годзе выдавецтва Паньствовы інстытут выдаўнічы выдала другую кніжку беларускага пісьменніка -- "Альпійскую баладу" ў перакладзе Віктара Варашыльск[illegible] Акрамя "Альпійскай балад[illegible] гэты том увайшлі аповесці "Праклятая вышыня" і "Здрада".

Васіль Быкаў быў ужо добра вядомы польскаму чытачу і літаратурнай крытыцы. "Альпійскую баладу" ўспрынялі ў Польшчы вельмі добра. Аб аповесці пісалі ў сямі часопісах самыя найлепшыя рэцэнзіі. Польскія крытыкі звярнулі ўвагу на тое, што ў творчасці беларускага пісьменніка вылучаецца моцная філасофская насычанасць яго аповесцей. Даследуючы паводзіны чалавека ў жорсткіх умовах вайны, у так званых гранічных сітуацыях, пісьменнік імкнецца выявіць духоўныя асновы яго паводзін, асновы яго мужнасці і няскоранасці.

Эдвард Павляк, рэцэнзент часопіса "Месенчнік літэрацкі", звярнуў увагу на аповесць "Праклятая вышыня". Павляк лічыць, што гэта лепшы беларускі твор пра апошнюю вайну.

Другая кніжка Быкава ў Польшчы пацвердзіла, што з'явіўся ў Беларусі выдатны пісьменнік, які ў сваіх творах паглыбляе маральна-этычную праблематыку ваеннай тэмы ў літаратуры.

У 1972 годзе польскія часопісы -- "Аргументы" і "Жыце літэрацке" -- апублікавалі фрагменты аповесці "Сотнікаў" у перакладзе Анджэя Дравіча. Праз год "Сотнікава" выдала "Ксёнжка і ведза" ў Варшаве. Польская крытыка ацаніла гэтую аповесць вельмі высока. Крытыкі адзначылі, што гэта найлепшы твор беларускага мастака. Яны паспрабавалі даказаць, што Быкаў не бытапісальнік вайны, а філасоф і грамадзянін, які ўвесь у сучаснасці, у пастаянным напружаным роздуме пра чалавека, яго месца ў сённяшнім драматычным свеце. Гэты роздум, як кажуць крытыкі, надае творам пісьменніка высокую агульназначнасць, робіць прарыў да істотных заканамернасцей чалавечага быцця. У ідэйна-мастацкай структуры твораў істотную ролю адыгрывае смерць героя, найперш галоўнага. Такая трактоўка вайны вельмі спадабалася польскаму чытачу.

У 1974 годзе Паньствовы інстытут выдаўнічы выдаў чацвёртую кнігу Быкава, у якую ўвайшлі тры аповесці: "Дажыць да світання", "Круглянскі мост" і "Абеліск". Творы пераклалі на польскую мову Ежы Літвінюк і Віктар Варашыльскі. Гэты том атрымаў у Польшчы найбольш рэцэнзій. Аб аповесцях Быкава пісалі ў дзевяці часопісах. Крытык Рэнэ Слівоўскі ў штотыднёвіку "Культура" напісаў, што апошнія твор[illegible]беларускага пісьменніка -- г[illegible]лепшая і сапраўдная літаратура пра партызанскае жыццё ў айчыннай вайне. Ніхто ў савецкай літаратуры не патрапіў гэтак аб'ектыўна паказаць партызанскую барацьбу і будзённасць партызанскага жыцця.

Праз год, у 1975-м, часопіс "Літэратура" надрукаваў фрагмент аповесці "Воўчая зграя" ў перакладзе Вальдэмара Ківільшы. Потым, у 1976 годзе, польскія чытачы пазнаёміліся з фрагментамі лепшай аповесці Быкава "Яго батальён". Пераклалі яе на польскую мову Вальдэмар Ківільша і Разалія Лесатова.

У другой палове сямідзесятых гадоў аб творчасці Быкава пачалі пісаць у Польшчы літаратуразнаўцы. Нарыс аб яго творах апублікаваў навуковы часопіс Познаньскага універсітэта, а Эдвард Павляк надрукаваў артыкул "Этыка на вайне", у якім падрабязна прааналізаваў ваенныя творы Быкава. Вядомы польскі беларутэніст Уладзімеж Стохэль апублікаваў артыкул аб выхаваўчых каштоўнасцях твораў Быкава. Усё гэта пераконвала, што беларускі пісьменнік знайшоў у Польшчы не толькі чытача, яго творы цікавілі таксама польскіх даследчыкаў, літаратуразнаўцаў.

У 1978 годзе выдавецтва "Чытэльнік" выдала кнігу "Яго батальён" у перакладзе Вальдэмара Ківільшы. Гэта аповесць таксама мела добрыя рэцэнзіі ў польскіх часопісах. Асабліва высока ацаніў "Яго батальён" крытык Яцэк Вайцяхоўскі. Ён пісаў, што гэта аповесць лепшая ад "Сотнікава". Вайцяхоўскі ў заканчэнне свайго вываду піша, што Быкаў стварыў свайго роду мараль, якую не ўсе, на жаль, патрапяць правільна прачытаць.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

**(Валерый УРУБЛЕЎСКІ)**

17 (29) красавіка, на пяты дзень узброенага выступлення, паўстанцы Урублеўскага ўжо ішлі ў бой. Гэта здарылася пад Пілатоўшчынай або Валілямі ў Сакольскай (Крынскай) пушчы. Для большасці, у тым ліку для Валерыя, гэта быў першы бой у жыцці, і ён асабліва запомніўся.

Спачатку на дарозе перад пазіцыяй паўстанцаў паказаліся шэсць казакоў. Некаторыя пад трапнымі кулямі паўстанцаў пападалі з коней, іншыя ўскакалі. Потым Валерый убачыў шчыльныя ланцугі пяхоты, тонкія джалы штыкоў. Лес напоўніўся дымам, грукатам, крыкамі, лаянкай... Толькі гадзіну не абучаныя толкам, слаба ўзброеныя паўстанцы здолелі стрымліваць карнікаў. Спачатку было збіта правае крыло атрада, потым левае трапіла пад перакрыжаваны агонь. Паўстанцы адкаціліся ў пушчу, пакінуўшы павозкі, казну, нават афіцыйную пячатку ваяводы Духінскага. 32 чалавекі, па звестках Арамовіча, забіты.

Аналізуючы бой, царскі генерал Манюкін быў вымушаны з трывогай адзначыць: "Мяцежнікі дзейнічалі правільнымі ланцугамі і калонамі і сыходзіліся ў густым лесе шмат разоў у рукапашную схватку". Але ў цэлым тон яго данясення пакуль што мажорны. У часе адной з паўстанцкіх контратак "былі перабіты іх начальнікі: Эйтмановіч і Урублеўскі", -- паведаміў ён у Вільню 22 красавіка.

Аднак дарэмна царская ўлады радаваліся гібелі Урублеўскага. Адважны паўстанцкі камандзір быў жывы, як, дарэчы, і іншыя пералічаныя ў рапартах афіцэры. Мужнасць капітана Урублеўскага (такі быў тады яго паўстанцкі чын) у гэтым баі адзначыла віленская падпольная газета "Ведамасці пра паўстанне на Літве". Першы бой вырашыў лёс Урублеўскага. Ён адчуў, што можа не губляць галавы пад кулямі, кіраваць людзьмі ў баявых умовах, аператыўна прымаць правільныя рашэнні. За імі ішлі, яму верылі людзі.

Два з паловай тыдні паўстанцы залечвалі раны ў глухім лясным урочышчы Будзіск.

"Няўдача Духінскага ў баі пад Сакалдою[1], хаця не такая страшная, як абвяшчалі афіцыйныя рускія паведамленні, дрэнна падзейнічала на навакольнае насельніцтва, аднак не спыніла яшчэ спачування да справы паўстання", -- пісаў Кастусь Каліноўскі.

... Зноў прыбывалі падмацаванні. Атрад вырас да 470 чалавек. Конная група пасылалася па навакольных вёсках чытаць паўстанцкі маніфест. Потым пад націскам карнікаў паўстанцы пакінулі абжытую мясціну ў пушчы і падаліся на ўсход.

8 чэрвеня новага стылю, па звестках Арамовіча, зноў прынялі бой над ракой Сцерцеж у Ружанскай пушчы (Слонімскі павет).

Недалуга Духінскі быў адразу ж адрэзаны ад асноўнай часткі атрада. Камандаваў Урублеўскі, які пад ураганным агнём царскіх салдат тры разы вадзіў у атаку касінераў і тры разы выбіваў карнікаў з гушчару. Духінскага ўдалося выратаваць. На гэты раз паўстанцы трымаліся добра і адышлі ў парадку, забіраючы раненых.

У сярэдзіне чэрвеня да галоўнага паўстанцкага атрада Гродзенскага ваяводства далучыўся ваўкавыска-гродзенскі атрад на чале з Аляксандрам Лянкевічам і Густавам Стравінскім. Зусім нядаўна гэтыя паўстанцы ўдзельнічалі ў вядомай Мілавідскай бітве, дзе карнікам былі прычынены значныя страты.

Арамовіч падрабязна, са шчырым замілаваннем апісвае супольны паўстанцкі лагер у Пераездзіку над Цемрай. Было шумна і весела. Паўстанцы адпачывалі, парадкавалі зброю і вопратку, дзяліліся ўражаннямі аб баях і паходах. Даваліся прызначэнні, пісаліся рапарты і адозвы. Вечарамі над лагерам разносіліся беларускія паўстанцкія песні, якія стварыў агульны любімец Фелікс Ражанскі (ён прыбыў з ваўкавысцамі).

Урублеўскі пераходзіў ад вогнішча да вогнішча, прысаджваўся да паўстанцаў, каштаваў кашы з дымком, кідаў вострае слоўка. Ён прыкметна ўзмужнеў, аброс ладнай чорнай бародкай. Там, дзе з"яўляўся шэф штаба, размовы і смех успыхвалі з новай сілай. Разам з усімі Урублеўскі спяваў:

**Ах ты, мая чарнабрыва,**  
**Будзь здарова і шчаслíва!**  
**Люблю цябе, любіць буду**  
**І ніколі не забуду!**  
**Ой, у хаце не астацца,**  
**Калі трэба ісці драцца...**  
**На ворага косы маем,**  
**Загуляем, як здужаем...**

Былі там словы пра "залатую вольнасць", пра Польшчу, пад якой паўстанцы-дэмакраты разумелі федэрацыю свабодных народаў.

З Пераездзіка перайшлі ў Вялікі Кут. Высланы адсюль увішны Казімір Кабылінскі з конным атрадам смелым нечаканым налётам захапіў Ружану і абяззброіў там царскую ваенную каманду.

Але хутка выстралы загрымелі каля самага паўстанцкага лагера. Гэта па слядах Кабылінскага ў Вялікі Кут прыйшлі царскія войскі. Бой для паўстанцаў быў паспяховы. Карнікі адступілі, пакінуўшы на полі бою сваіх забітых, раненых і (мара кожнага паўстанца!) 29 дальнабойных штуцэраў.

Тады яскраз цвіла-адцвітала беларуская каліна. І вось пасля бою Урублеўскі нарваў ахапак каліны, пастроіў атрад і раздаў усыпаныя беласнежнымі пялёсткамі галінкі паўстанцам, якія найбольш добра паказалі сябе ў баі. Эпізод гэты малое нашага героя вялікім рамантыкам. Ды і сам час быў узнёслы і рамантычны.

Шэф штаба Валерый Урублеўскі, зазначае Арамовіч, быў "душою атрада" ва ўсіх радасцях і бедах. Менавіта такія людзі, як Урублеўскі, што выйшлі ваяваць у імя высокіх ідэалаў, карысталіся найбольшай папулярнасцю ў народзе, паўсюдна мелі падтрымку і дапамогу. У атрадзе панаваў строгі рэвалюцыйны парадак. У дзённіку Арамовіча падкрэсліваецца ўважлівае стаўленне паўстанцаў да народа -- не дапускалася, як піша наш летапісец, ніводнага гвалту.

21 чэрвеня, збіўшы царскі заслон у Жаркоўшчыне, паблізу Дабраволі і Рудні, паўстанцы ўвайшлі ў Белавежскую пушчу. Велізарная спрадвечная пушча ахоўвала, але і дадавала цяжкасцей. Недасведчанаму чалавеку цяжка было ў ёй арыентавацца, ён мог назаўсёды згубіцца ў зялёным паўзмроку. А Урублеўскі -- ляснічы па прафесіі -- быў у лясной глухамані, як рыба ў вадзе. Да таго ж ён загадзя абзавёўся адлаведнымі картамі. "Адзіным правадніком у маршах па гэтых глухіх нетрах, -- піша Арамовіч, -- быў шэф Урублеўскі з планам лясніčага, дзе былі ўказаны адзелы, прасекі і іх нумары..."

У калоніі Попелеў вырашана было падзяліцца. Накіраваўшы частку паўстанцаў у суседнія паветы, Урублеўскі і Духінскі з ядром атрада асталяваліся на нейкі час у Ваўкавыскім павеце (Свіслацкая пушча).

9 жніўня. Пашкоўскія Астраўкі. Новы бой. Супраць паўстанцаў тры роты пяхоты і эскадрон улан. "Калі ў лесе з"явіліся ворагі, -- натуе Арамовіч, -- з нашай лініі быў адкрыты агонь, але партызаны ўжо ведалі пра няроўнасць сіл... Таму пасля невялікай сутычкі нашы адступілі з лініі, за выключэннем 40 чалавек, пераважна кобрынцаў, якія з Урублеўскім яшчэ даволі доўга вялі бой на месцы і, цяснімыя царскімі салдатамі, пакрысе адступілі, увесь час адказваючы агнём..."

**Генадзь КІСЯЛЁЎ**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50-52.**

[1] Так называе Каліноўскі бой пад Пілатоўшчынай або Валілямі, хаця адлегласць паміж сённяшнімі вёскамі Валілы і Сакалда, як паведаміў мне беларускі пісьменнік з Беласточчыны С.Яновіч, даволі вялікая.

# ВАЙНА І ЧАЛАВЕК: ФІЛАСОФІЯ, ЭТЫКА, МАРАЛЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

У 1979 годзе выйшла ў свет другое выданне "Трэцяй ракеты". Гэта даводзіла, што ў Польшчы сапраўды творчасць Быкава мела вернага чытача. Нават у час польскай рэвалюцыі, у 1981 годзе, выдавалі ў Польшчы творы беларускага пісьменніка. Тады менавіта выдавецтва Краёва агенцыя выдавнiча надрукавала "Воўчую зграю" ў перакладзе Анджэя Беня. У гэты цяжкі для Польшчы час кніжку Быкава рэцэнзавалі часопісы "Ту і тэраз", "Валька млодых" і "Пшыязьнь". Усе рэцэнзіі напісаны ў добрым, прыязным тоне. Крытыкі ганілі толькі кепскі пераклад Беня. Перакладчык няўмела перадаў філасофскую думку беларускага мастака слова і філосафа. Аднак і гэта аповесць спадабалася польскім рэцэнзентам.

Ужо ў 1982 годзе з'явілісяў польскім друку фрагменты аповесці "Знак бяды". Кніжкай яна выйшла толькі ў 1990 годзе. Выдаў яе Паньствовы інстытут выдавнічы ў перакладзе Марыі Путрамэнт.

Польскі чытач пазнаёміўся амаль з усімі творамі Быкава. Яго кнігі мелі ў нашай краіне заслужаны поспех. А гэта таму, што кнігі Быкава, поўныя высокага грамадзянскага пафасу, веры ў вялікія духоўныя магчымасці чалавека, нянавісці да подласці, хлусні, здрадніцтва, актыўна служаць галоўнай мэце сучаснасці -- выхаванню чалавека для новага грамадства, для дружбы між усімі народамі. Такое разуменне ўсёй творчасці Васіля Быкава вельмі блізкае нашаму польскаму чытачу.

У заканчэнне хачу сказаць, што творчасць Быкава ў Польшчы мае шанс таксама і на будучыню, а гэта таму, што Быкаў піша толькі шчырую праўду пра чалавека і яго паводзіны ў самых экстрэмальных умовах у нашым сучасным вельмі складаным і трывожным жыцці.

**Мечыслаў ЯЦКЕВІЧ.**

Ольштын, Польшча.

## ІНЖЫНЕР МЯНЯЕ ПРАФЕСІЮ



**Часта бывае: чалавек многія гады і не здагадваецца аб здольнасцях да творчасці, што крыюцца ў ім. А потым -- як азарэнне. Прыходзіць і ўжо не адпускае захапленне, якое становіцца справай усяго жыцця.**

**Так было і ў Наталлі Мацвеевай, якая працавала дваццаць тры гады хімікам-тэхнолагам на мінскім НВА "Планар". Там жа стала наведваць клуб фларыстыкі. А ўжо праз год зразумела: трэба мяняць прафесію. Далёка не ва ўсіх гэтае рашэнне выклікала разуменне. Важна было, што муж Юрый падтрымаў і стаў актыўна дапамагаць Наташы ў гэтай новай справе. Спачатку там жа, на "Планары", яна ўзначаліла клуб фларыстыкі і на яго базе арганізавала надомную працу пенсіянераў. Але ўсё ж гэта была вытворчасць, а хацелася творчасці. Такая магчымасць з'явілася з пераходам на работу ў Рэспубліканскі Палац школьнікаў. І хоць з дзецьмі працаваць складана, затое цікава. Ды і на асабістую творчасць часу хапае.**

**А тут яшчэ і Юрый уключыўся ў работу. Трэба праўду сказаць, не ад добрага жыцця адзін з вядучых інжынераў-механікаў СКТБ Белдзяржуніверсітэта, які ўдзельнічаў у складаных распрацоўках для абароны, космасу, медыцыны, раптам пакінуў любімую работу. Агульны развал у краіне прывёў да прыніжэння ролі інжынернай працы. Апошні год Юрый практычна быў без зарплаты. Але не сядзеў склаўшы рукі, а дапамагаў Наташы збіраць матэрыял для яе работ, афармляў выстаўкі і паціху спрабаваў сілы ў лазапляценні. Прыгледзеўся, павучыўся ў майстроў і паверыў у сябе.**

**Вядома, наперадзе вялікая праца па пошуку свайго почырку, свайго стылю. Але першы вынік ужо радуе. На выстаўцы народных майстроў, якая прайшла ў Мінску, экспанаваліся сумесныя работы Наташы і Юрыя.**

**Якія іх планы на будучыню! Вядома ж, пошук. Пошук смелых рашэнняў, новых матэрыялаў. І праца, праца на радасць людзям, чые сэрцы яшчэ не ачарсцвелі да таго, каб не ўспрымаць прыгожае.**

**НА ЗДЫМКУ: Наталля і Юрый МАЦВЕЕВЫ.**

**Фота Я.КАЗЮЛІ.**

## *СПОРТ*

ХАКЕЙ. Завяршыўся міжнародны турнір на прыз газеты "Известия". Зборная Беларусі на гэтыя спаборніцтвы папала выпадкова: каманда Швейцарыі прыехаць у Маскву адмовілася.

Пераможцамі турніру сталі алімпійцы Расіі. Увайсці ў тройку прызёраў нашай камандзе не ўдалося. Занясём у актыў беларусаў нічыю (2:2) з камандай Канады.

БІЯТЛОН. Не за гарамі зімняя Алімпіяда, якая адбудзецца ў Нарвегіі. А пакуль праходзяць спаборніцтвы, дзе правяраюцца магчымасці і каманд, і асобных спартсменаў.

Прыемнай нечаканасцю стала перамога жаночай зборнай Беларусі па біятлону ў эстафеце 4х7,5 кіламетра на чарговым этапе розыгрышу Кубка свету, што прайшоў у Славеніі. Вось імёны тых, хто ўваходзіў у каманду нашай рэспублікі: Ірына Какуева, Наталля Пермякова, Наталля Рыжанкова і Святлана Парамыгіна.

Там жа змагаліся і мужчыны. У гонцы на 10 кіламетраў пераможцам стаў прадстаўнік Беларусі Віктар Майгураў.

ШАШКІ. Першынство свету па рускіх шашках завяршылася ў Пінску. З беларусаў лепш за ўсіх выступіў Андрэй Валюк з Гродна: ён заняў трэцяе месца.

ПАУЭРЛІФЦІНГ. Зборная Беларусі дэбютавала на чэмпіянаце свету (Венгрыя) у гэтым новым відзе спорту. і не беспаспяхова. Люба Бялова з Гомеля заняла другое месца ў вагавой катэгорыі да 56 кілаграмаў.

## *"100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ"*

### ЯКАЯ МОВА БЫЛА ДЗЯРЖАЎНАЙ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ?

Дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім была беларуская мова, бо беларускі этнічны элемент пануваў у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Княства, а нашыя землі складалі аснову яго магутнасці.

Галоўнае сведчанне дзяржаўнасці беларускае мовы -- абслугоўванне ёю патрэбаў дзяржаўнага кіравання. Наша мова мела для гэтага ўсе неабходныя якасці, найперш пісьмова-літаратурную форму, досыць апрацаваную. Найбольшай дасканаласці яна дасягнула перадусім у сферы справавой пісьменнасці, самай пашыранай, якая якраз і ўжывалася ў дзяржаўным жыцці. На беларускай мове ўбачылі свет усе зводы законаў нашай старажытнай дзяржавы: Вісліцкі статут 1423--1438 гадоў, Судзебнік Казіміра Ягайлавіча 1468 года, Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў, Трыбунал 1586 года, а таксама вялікая колькасць дакументаў метрыкі Вялікага Княства -- архіва, які налічвае не адну сотню тамоў.

Мова нашых продкаў выконвала дзяржаўную функцыю на ўсёй тэрыторыі гаспадарства, была сродкам зносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў, што жылі тут. Ужыванне беларускай мовы ў сферы афіцыйнага справаводства было замацаванае заканадаўча: у Статуце Вялікага Княства пра гэта быў спецыяльны артыкул (раздзел 4, артыкул 1).

Праўда, пачынаючы з XVII стагоддзя (з прычыны ўзмацнення польскай экспансіі і пераймання чужой мовы шляхтай у сітуацыі двухмоўя) наша мова пакрысе пачала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку. Урэшце пастановай Сойму 1696 года статус дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Княства быў замацаваны за польскай мовай.

### ХТО ТАКІ КАСТУСЬ АСТРОЖСКІ?

Канстанцін Іванавіч Астрожскі (1460 --1530) -- адзін з самых славутых герояў беларускай гісторыі, вялікі абаронца Айчыны. Паходзіў з роду тураваПінскіх князёў, нашчадкі якіх з канца XIV стагоддзя мелі галоўнай рэзідэнцыяй горад Астрог на Валыні. Вайсковую службу пачаў удзелам у барацьбе з крымскімі татарамі ды ў першай вайне Маскоўскай дзяржавы супраць Вялікага Княства Літоўскага. Як найбольш таленавіты вайсковы кіраўнік, ва ўзросце 37 гадоў атрымаў чын гетмана найвышэйшага -- галоўнага начальніка над войскам дзяржавы -- ды неўзабаве здабыў еўрапейскую славу.

У змаганні з крымскімі татарамі і маскоўскімі заваёўнікамі Астрожскі не меў сабе роўных. Згодна з надпісам на ягоным надмагіллі, гетман 63 разы дамагаўся перамогі над імі. Асабліва слаўнай была перамога над амаль утрая большым маскоўскім войскам пад Воршай 8 верасня 1514 года, якой Астрожскі фактычна ўратаваў краіну ад чужога панавання.

Пра слаўную перамогу даведалася ўся Еўропа. Ёй быў прысвечаны спецыяльны лісток навінаў, выпушчаны ў Нюрнбергу ў 1514 годзе. Аршанская бітва ўвайшла ў еўрапейскія хрэстаматыі з ваеннай гісторыі як узор удалай тактыкі змагання з намнога перасяжнымі сіламі ворага, як прыклад вырашальнага ўплыву таленту і майстэрства вайсковага начальніка на вынік баталіі.

Нястомна рупячыся пра належную абарону Вялікага Княства, найвышэйшы гетман не шкадаваў ні свайго жыцця, ні сродкаў ды на ўласныя грошы ставіў харугвы вершнікаў. У Еўропе Канстанціна Астрожскага называлі "Ромулам", "Сцыпіёнам", "другім Ганібалам", "князем, найбольш вартым светлай памяці". Гетманства гэтага "брата расіянаў па царкве, але іх страшнага ворага ў полі" стала ўзорам вайсковай чыннасці ў Вялікім Княстве.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1864. Падпісана да друку 3. 1.1994 г.